Ульф Нільсан
~
Эва Эрыксан




# Найлепшы спявак у свеце

Мне заўжды падабалася
спяваць малодшаму брацiку.
А яму падабалася слухаць.

Спачатку я спяваў *"Дзеда-барадзеда"*, а потым *"Саўку ды Грышку"*.

Брацiку было так весела, што ён аж падскокваў у крэсле.





Я захутваўся ў коўдру і прыкідваўся монстрам. Хадзіў вакол і гырчэў. А потым я выглядваў з-пад коўдры і казаў пісклява: “Гэта ўсяго толькі я!” Гэта браціка так смяшыла, што ён ледзьве з крэсла не падаў.





Але больш за ўсё яму падабалася песня, якую я прыдумаў сам. Спецыяльна для яго:

*Мой брацік – мілы маленькі цяльпук,*
*Цмок – і піп – і ПУК!!!*

На “піп” я націскаў яму пальцам на жывоцік, а калі я казаў “пук”, ён валіўся на падлогу ад смеху і крычаў:
– Яшчэ! Яшчэ!
Ён лічыў, што я спяваю лепш за ўсіх у свеце.

Але калі было штосьці ўрачыстае і грандыёзнае, то я спяваць не любіў. Мне было шэсць гадоў, і я хадзіў у школу. Набліжалася вясновае свята, і мы рыхтавалі спектакль. На сапраўднай сцэне і з сапраўднымі пражэктарамі. Я сказаў настаўніцы, што не хачу выступаць.

— Я прыдумала, — сказала яна мне. — Ты можаш сядзець побач са сцэнай, а потым проста выйсці і сказаць, што ўжо канец. Так будзе добра!





А пасля маіх заключных словаў будзе кава для бацькоў і торт для нас усіх. Але які ў мяне будзе касцюм? Адзінае, што засталося, – гэта касцюм крата.



Мы рыхтаваліся кожны дзень. Усе спявалі.
А ў канцы выступу я мусіў выйсці і сказаць:

*"Мы песні праспявалі, ну а цяпер – канец!"*

Але якраз у гэты момант мне стала так страшна...



Тады настаўніца сама вывела мяне на сцэну.

— З гэтай важнай часткай ты справішся лепей за ўсіх, — сказала яна.

Але я моцна ўчапіўся за настаўніцу. Пражэктары ўдарылі мне ў вочы промнямі. Я маўчаў. Доўга-доўга маўчаў. А потым сказаў, хутка-хутка і зусім ціха:



*– Мы-песні-праспявалі-ну-а-цяпер-канец.*



Пражэктары павольна патухлі. Я стаяў у цемры.
Настаўніца сказала:

– Заўтра ты будзеш стаяць на сцэне сам. Будзеш гаварыць павольней і крышачку гучней. Усё будзе вельмі добра, вось убачыш...

Увечары я не мог заснуць. Адзін на сцэне. Казаць ГУЧНА. Цэлая зала бацькоў. Усё было так жахліва! Мае далоні ўзмакрэлі ад поту. А што, калі я забуду словы? Будзе сапраўдная катастрофа!
Можа, я буду толькі запінацца ўвесь час? Можа, усе гэтыя бацькі пачнуць кідацца ў мяне тортам? Можа, школу зачыняць, і настаўніца застанецца без працы? І не зможа зарабляць грошы, і ёй давядзецца збіраць пустыя бутэлькі па сметніцах, каб потым іх здаць?
А я – што будзе са мной?



Я кінуўся да ложка мамы і таты і лёг за мамінай спінай.

Ці дазволіць мне потым мама спаць побач з ёй? Можа, яна зусім перастане мяне любіць? Я плакаў, пакуль не заснуў.

Мне снілася, што я стаю на сцэне, і тут прыходзіць монстр, загорнуты ў сваю брыдкую, пачварную коўдру. І праглынае мяне.



Зранку я не снедаў, бо не мог есці.
І піць таксама не мог, таму што вельмі дрыжалі рукі.

— Будзе здорава паглядзець сёння а трэцяй ваш выступ! — сказаў тата. — Мы зробім клубнічны торт і возьмем яго з сабой.

— Замаўчы, — сказаў я.

— Бабуля таксама прыйдзе, — сказала мама.

— Спявай, спявай! — сказаў брацік.

Мне скруціла жывот.

— Замаўчы, — сказаў я.

Потым я пацягнуўся
ў школу. Я ішоў за тры крокі
ад таты, быццам
мяне чакала вязніца.
І мне балеў жывот.





Мы ўпрыгожылі сцэну дрэвамі, кветкамі і вялікім вясёлым сонцам. На кардоне мы намалявалі грудок зямлі, які павінен быў стаяць каля сцэны і за якім мусіў чакаць крот. Для бацькоў мы паставілі ў зале пяцьдзясят два крэслы. Яны здаваліся хвалямі ў шырокім моры.

Сёння сцэна была нашмат большай. Я стаяў на яе краі, быццам на абрыве над морам. Сэрца шалёна білася. Самотны крот на сцэне.





Вось і тры гадзіны. Я мусіў стаяць у адмысловым месцы каля сцэны за земляным грудком. Я граў крата, які слухае ўсе вясновыя песні і выходзіць з-пад зямлі ў самым канцы.

Бацькі занялі свае месцы. Зала была поўная. Крэслаў не хапіла. Ля самай сцяны стаялі бабуля, мама, тата і брацік. Усе смяяліся і шумелі.



Зазвінеў званок, і зрабілася зусім ціха. На сцэну выйшла настаўніца. Кліц-клац, кліц-клац, — цокалі яе туфлі.

— Вітаем вас! — сказала настаўніца павольна і гучна.

Заслона паднялася. За ёй стаялі ўсе мае аднакласнікі. Па зале прайшоў гул. Забліскалі фотаўспышкі.



І вось яны пачалі спяваць. У іх добра атрымлівалася. Яны спявалі прыгожа і гучна. У патрэбных месцах прытупвалі або ўзмахвалі рукамі і ўсміхаліся.

А я быў толькі няшчасным сарамлівым кратом, што хаваўся ў сваёй нары. Я мог толькі ціха прамармытаць свае словы. Якія там у мяне яны? Штосьці пра песні і пра канец?

І тут мне вельмі захацелася сікаць.



Я хутчэй кінуўся з залы, праціскаючыся
праз публіку, якая весела смяялася.



Я прыбег у прыбіральню і паспеў акурат у час расшпіліць маланку на штанах. Вяртацца ў залу мне ўжо не хацелася. Нізашто ў жыцці! Я схаваўся сярод бацькоўскіх куртак, што віселі ў гардэробе.

“Я назаўсёды застануся кратом і буду ад усіх хавацца”, – думаў я.



– Кро-оцік! – раптам паклікаў хтось. – Гэй, кро-оцік!

Гэта быў мой малодшы брацік, які прыйшоў мяне шукаць. Я стаіўся за курткамі.

“Я ніколі, ніколі не падымуся на сцэну, я назаўсёды застануся адзін у гэтай цемры”, – думаў я.

– Ну выйдзі, кроцік! – сказаў брацік. – Дзе ты, вясёлы кроцік?



Я выглянуў. Ён засмяяўся.

– Я бачу тваю мордачку, кроцік!

Ён сеў побач і ўзяў мяне за руку. І быць кратом адразу зрабілася не так самотна і скрушна. Я пачуў, што на сцэне ўжо спяваюць апошнюю вясновую песню.

Брацік сказаў, што я спяваю лепей за ўсіх.

– Лепш за ўсіх у свеце. Ну праспявай, калі ласка! – папрасіў ён.

Яшчэ ён сказаў, што хоча таксама стаяць разам са мной на сцэне. Побач са сваім вялікім старэйшым братам.

Я толькі буркнуў нешта ў адказ.

Я падумаў, што было б сумна хавацца сярод вопраткі, аж пакуль яны не з'ядуць апошні кавалак торта. Здавалася, я штосьці прапушчу, калі не адважуся.

Брацік пацягнуў мяне за лапу. Я злаваўся, што ніяк не рашуся. І яшчэ злаваўся, што ўсё прапушчу, таму што ніяк не рашуся...

– Які я злы, што не магу туды выйсці! – сказаў я.

– Ты найлепшы. Праспявай пра піп! – сказаў ён і са смехам націснуў мне пальчыкам на жывот. – ПІП. ПІП. А цяпер ты мяне піпні!

Тады я падняўся. Ён узяў мяне за руку, і мы ўвайшлі ў залу.



Акурат тады, калі скончылася апошняя вясновая песня, мы падняліся на сцэну – брацік і стары сонны крот з вялізнымі лапамі. Было зусім-зусім ціха. Я ссунуў мордачку на лоб і агледзеў публіку. Чамусьці я быў зусім спакойны. Быццам той вялізны монстр урэшце адпусціў мяне. Потым я сказаў:

– *Мы песні праспявалі, ну а цяпер – канец!*

Нехта запляскаў, але тут я сказаў:

– *Канец мы паказалі, ну а цяпер – спяём!* Я спяю адну вясёлую песеньку для майго любімага брацікa. Гэтая песня яму падабаецца больш за ўсё. Тэкст і музыка – мае.

*Мой брацік – мілы маленькі цяльпук,*
*Цмок – і піп – і ПУК!!!*





– Яшчэ, яшчэ! – закрычаў мой брацік.
Я пачаў зноў спяваць нашую песеньку:

*– Мой брацік – мілы маленькі цяльпук.*

Стаяць на сцэне было так весела. Я вырашыў праспяваць яшчэ *"Дзеда-Барадзеда"*, потым расказаць цікавы анекдот, а пасля станчыць *"Танец-над-забітым-монстрам"*.



Мяне перапоўніла захапленне.
Я мог спяваць і танчыць гадзінамі.
*Цмок – і піп – і ПУК!!!*



Мой брацік паваліўся на падлогу ад смеху. Тады пражэктары павольна патухлі, і з цемры пачуліся свіст і воплескі публікі. А потым у зале ўключылі звычайныя лямпы.

Настаўніца падышла да мяне і сказала: “Я ведала, што ты зможаш прамовіць усё адным махам”. Бабуля сказала: “Я не зусім чула, пра што ты спяваў”. Мама абняла мяне і пахваліла, што я так павесяліў брацiка. І сказала яшчэ, што я спяваў лепш за ўсіх у свеце.





Потым тата прынёс нам з брацікам па вялікім кавалку клубнічнага торта. І нам было смачна.

А мой брацік спяваў канцоўку маёй песенькі. Яшчэ і яшчэ.



Ульф Нільсан і Эва Эрыксан разам зрабілі цэлы шэраг
дзіцячых кніжак з малюнкамі,
якія ўжо сталі ў Швецыі класікай.
Ульф Нільсан напісаў больш за 100 казак
і кніг для дзяцей і падлеткаў,
а Эва Эрыксан ілюстравала як свае кнігі для дзетак,
так і творы многіх іншых вядомых
шведскіх дзіцячых пісьменнікаў.

ISBN 978-985-7089-40-6

